# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 2 (411) | ГОД ІХ | 12 СТУДЗЕНЯ 1964 г. | ЦАНА 60 ГР.


ЭКСПЕРЫМЕНТ У ГРАМАДСКІХ РАДАХ

## ЛЕКЦЫЯ ДЭЦЭНТРАЛІЗАЦЫІ

Вёска дае вельмі выразную карціну ўмоў для поспехаў дэцэнтралізацыі. У тым асяроддзі, дзе традыцыі дэмакратычнай улады вельмі кароткія, выразна відаць залежнасць паміж сабой двух прадпасылак аднаго працэсу: лепшых вынікаў адміністрацыйна-гаспадарчай працы і такога стылю працы органаў мясцовай улады, які адчыняе яе для грамадскай думкі. Вёска, дзе асабліва моцна трымаюцца тэндэнцыі да ўласнасці, да індывідуальных інтарэсаў, стварае асаблівую карціну ўмоў для поспехаў дэцэнтралізацыі. Гэтыя тэндэнцыі могуць стаць небяспечнымі, калі прадстаўнікі мясцовай улады, выбраныя сярод насельніцтва, атрымліваюць нейкія правы ў фінансавай палітыцы.

А аднак эксперымент, даючы некаторым ГРН-ам такія правы, закончыўся выразным поспехам. Друк падсумоўваў яго гаспадарчыя і адміністрацыйныя эфекты. Аднак галоўная ўмова поспеху не была так шырока папулярызавана. Гэтай умовай з'яўляецца дэмакратычны спосаб рэалізацыі атрыманых праў. На гэта варта звярнуць увагу не толькі таму, што многія рады стараюцца атрымаць такія фінансавыя правы, але і таму, што гэтая ўмова забяспечвае поспех кожнай дэцэнтралізацыі.

Перададзеныя ГРН-ам правы ў фінансавай палітыцы ахопліваюць зямельныя падаткі і электрыфікацыйныя аплаты. Гэта азначае, што ГРН-ы маюць права вырашаць, напрыклад, аб ільготах, перасоўваць тэрмін уплаты, калі гэтага патрабуюць умовы, адсоўваць тэрмін фінансавай экзекуцыі, калі раптам узніклі нейкія новыя акалічнасці. Раптам — бо двух- або трохтыднёвы тэрмін, які даюць павятовыя рады, тут скарачаецца да двух - трох дзён. Гэта патрабуе непасрэднага кантакту з людзьмі. І сапраўды, у ГРН-ах, дзе праводзіўся эксперымент, у два разы зменшылася колькасць напамінанняў і ліцытацый. І не толькі таму, што бліжэй да людзей перанесена месца вырашэння гэтых спраў. Таксама і таму, што працаўнікі грамадскіх рад прайшлі перад гэтым спецыяльны чатырохмесячны курс, у якім асаблівая ўвага была звернута на фармаванне паставы грамадскіх працаўнікоў, старанна даследуючых кожную справу.

У ахопленых эксперыментам радах у сем разоў зменшылася колькасць выпадкаў адмены падаткаў. А ёсць ужо грамадскія рады, дзе колькасць выпадкаў адмены падаткаў складае толькі 3—5% выпадкаў з мінулых год. Так дзеецца ў радах, дзе фінансавыя камісіі прытрымліваліся правіла адкрытага вырашэння справы. Гэтыя камісіі да ведама ўсіх, на табліцах, падавалі праекты і падставы вырашэння. На працягу 14 дзён ад іх апублікавання кожны грамадзянін меў права ўнесці свае ўвагі, дадатковыя інфармацыі і скаргі. Гэтыя ўвагі таксама падаваліся на кантроль грамадскай думкі, што адразу дазваляла адкінуць спробы трактавання іх як прылады ў асабістых спрэчках. Ілгуноў і круцялёў вучылі адказваць за сваё слова. Пры такім стылі працы камісіі вёска супольна выносіла рашэнне, без чаго немагчымы быў бы поспех у эксперыменце дэцэнтралізацыі.

*

Ва ўсіх грамадах, дзе добра прытрымліваліся гэтых дэмакратычных форм, адзначаны прыхільныя і дысцыплінаваныя адносіны насельніцтва да ўсіх рашэнняў, узрост гра-

(Працяг на стар. 7)



ЛЯСНАЯ ПРЫГАЖУНЯ

ПАСЛЯ XIV СЕСІІ ВРН

## ЧЫМ ГАСПАДАРЫМ?

Сейм на апошняй сваёй сесіі, як вядома, прыняў пастанову аб бюджэце дзяржавы. Пад канец снежня адбылася чатырнаццатая сесія Ваяводскай Рады Нарадовай. Прадстаўнікі грамадства гарадоў і вёсак — дэпутаты ВРН разглядалі бюджэт Беластоцкага ваяводства. Рашэнні, якія яны прынялі, маюць выключна важнае значэнне. Яны вызначаюць тэмпы і шляхі развіцця Беласточчыны на бліжэйшы перыяд.

Зацверджаны дэпутатамі бюджэт ваяводства перавышае суму двух з палавінай мільярдаў злотых. У параўнанні з мінулым годам пабагацелі мы амаль на 170 мільёнаў злотых. Вось такім багаццем распараджаецца Беластоцкае ваяводства. Не адзін чалавек хацеў бы мець у сваіх руках такое багацце. Грошай многа, але яшчэ больш на Беласточчыне дзірак, якія гэтымі грашыма неадкладна трэба залатаць. Нас перш за ўсё цікавіць сельская гаспадарка. Яе апетыт дэпутаты і спецыялісты ВРН ацанілі на 550 мільёнаў злотых. Найбольш ненасытнымі з'яўляюцца занядбаныя дрыгвяністыя сенажаці і... дзяржаўныя сельскія гаспадаркі (ПГР-ы). Меліярацыя і загаспадараванне дрыгвяністых лугоў паглыне 219 мільёнаў злотых, а на падтрымку ПГР-аў прызначаецца 150 мільёнаў злотых. Рэшта грошай пойдзе на развіццё іншых галін сельскай гаспадаркі Беласточчыны. А заданні, накрэсленыя планам для сельскай гаспадаркі на 1964 год вельмі высокія. Асабліва ў прадукцыі збожжа. Сяляне Беласточчыны, паводле гэтага плана, маюць у 1964 годзе выпрадукаваць на 54 тысячы тон больш збожжа, чым у папярэднім годзе. Перажываем цяжкі перыяд. Таму змушаны менш грошай (на 1,2% у параўнанні да мінулага года) адвясці на новыя капіталаўкладанні. Беластоцкае ваяводства, між іншым, узбагаціцца за 1964 год, як спадзяваюцца дэпутаты, зацвердзіўшыя план, на каля 20 кіламетраў брукаваных дарог мясцовага характару, на 4 масты, прыбудзе нам 29 пачатковых школ, 7 вясковых медыцынскіх пунктаў, а ў тым ліку пункты аховы здароўя ў Чыжах і Кляшчэлях (Гайнаўскі павет), у Нурцу (Сямяцішкі павет) і ў Крынках (Сакольскі пав.). Атрымаем таксама дзве аптэкі. Аднак асаблівая ўвага будзе звернута на заканчэнне даўней пачатых будоўляў. А такіх ёсць у ваяводстве нямала.

(Працяг на стар 7)



Будынак Музея рэвалюцыйнага руху ў Беластоку.
На стар. 3 чытайце «Будзе жыць».

